Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 24 (78) Субота, 20-га Чэрвеня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар.— 5 гр.

## Усе залежыць ад выкананьня.

Рада міністраў зацьвярдзіла і апублікавала ўжо некаторую часьць пляну аздараўленьня крэсаў.

Гэта толькі зарысы пэўных пачынаньняў ураду па гэтай справе і зарысы досіць выразныя; ўсё залежыць ад таго, як прыняты плян будзе праводзіцца ў жыцьцё.

Трэба разумець, што да некаторых пытаньняў ня толькі агульна-краёвага, але й нашага беларускага жыцьця урад падходзіць ужо з конкрэтнымі мерамі.

Гэткімі мерамі зусім рэальнага характару урад лічыць выданьне падручнікаў на беларускай мове для двумоўных (польска-беларускіх) пачатковых школаў, якія з пачаткам новага школьнага году, як відаць, зробяцца фактам.

Ці падручнікі гэтыя маюць быць зложаны так, што карыстацца імі можна будзе і ў чыста-беларускіх школах (пры варунку іх істнаваньня), ці гэтыя падручнікі будуць датарнованы да ужываньня толькі ў школах двумоўных — аб гэтым прыходзіцца гадаць, бо хто і як складае гэтыя падручнікі, пакуль што, невядома.

Праўда, ў „Кгупісу" была заметка аб тым, што п. міністар народнае прасьветы даручыў камусьці апрацаваньне беларускага лементара і чытанкі, выдаючы іх лацінскімі літарамі, якія ў народнай беларускай псыхіцы лічацца польскімі.

Трэба зазначыць, што ў вольным разьвіцьці беларускага друку перавагу дасюль мае гражданка і хоць трапляюцца выданьні, зробленыя лацінкай, але блізу што ўсё нашае пригожае пісьменства ўжо выйшла ў сьвет літарамі гэтак зван. „расейскімі", якія па традыцыі ў нас замяняюць славянскія літары або гэт. зван. кірыліцу.

І вось з гэтым увядзеньнем з гары ў школы лацінікі можа вытварыцца адна нікому непатрэбная прыкрасьць для выхаванцаў утраквістычных (двумоўных) школаў: вучачыся беларускае мовы ў школе лацінкаю, выхаванцы гэтае школы не патрапяць у далейшым з патрэбнай лёгкасьцяй азнаёміцца з беларускаю літэратураю па цяперашніх выданьнях, адбітых гражданкаю.

Мы і спынілі сваю ўвагу, галоўным чынам, на зарысах урадовага пляну датычна школьніцтва, бо адкрытае падтрымліваньне ўрадам нашых беларускіх культурных жаданьняў цераз выдаваньне навет і падручнікаў для школы мае вялікую культурную вагу пры належным выпаўненьні гэтага заданьня.

Нельга ня прызнаць, што вакол увядзеньня міністэрствам лацінікі ў беларускія падручнікі, можа пачацца і ўсялякага гатунку дэмагогія, быццам самі лацінскія літары змогуць прычыніцца да паланізацыі беларусаў. І гэткі дразьлівы момэнт у выпаўненьні задачы школьных уладаў павінен быць ухілены.

Навучаньне беларускай мовы ў настаўніцкіх сэмінарыях Віленшчыны і Навагрудчыны, ухваленае ўрадам тады толькі будзе мець для нас пэўнае значэньне, калі выкладаньне нашае мовы будзе пастаўлена на належную вышыню.

Гэткім чынам, у накрэсьленых урадам школьных замерах усё будзе залежаць, як і дасюль было ў нашых справах, ад самага спосабу выкананьня.

*Памятайце аб дарагоўлі друку, а дзеля гэтага не шкадуйце грошай на падпіску, каб ня была спынена вам высылка „Грамадзкага Голасу"!*

## Палітычны агляд.

У апошні час на першы плян выступаюць 4 важныя палітычныя падзеі: разгром французаў у Мароко, нацыянальны рух проці чужаземцаў у Кітаі, саюзная нота да Нямеччыны ў справе абяззброеньня і ангельска-француская паразуменьне ў справе бясьпекі.

Найбольшае значэньне мае апошняя падзея. Аб дагаворы бясьпекі, запрапанованым Нямеччынай, шмат у нас пісалася і дзеля гэтага цяпер ня будзем многа аб гэтым казаць. Трэба толькі ад'значыць, што Францыя цалком пайшла на ўступкі дзеля Англіі і што затрыумфаваў ангельскі пагляд на справу міру ў Эўропе. Зьмест гэтага ангельска-францускага паразуменьня гэткі:

Англія дае гарантыю бясьпечнасьці заходняй граніцы Нямеччыны з Францыяй і Бэльгіяй і гатова выступіць з усімі сваімі сухапутнымі, вадзянымі і паветранымі сіламі на абарону іх. Гэты дагавор павінен быць падпісаны Англіяй, Францыяй, Бэльгіяй і Нямеччынай. Што-ж датычыць усходніх межаў Нямеччыны з Польшчай і Чэхаславакіяй, дык Францыя мае права прыйсьці ім з падмогай на агульных правах сябра Лігі Народаў у той форме, якую яна знайдзе неабходнай дзеля інтарэсаў сваіх хаўрусьнікаў. Значыцца, калі Нямеччына нападзе на Польшчу або Чэхаславакію, дык Францыя, як сябар Лігі Народаў, мае права памагчы зватакованым. Але дзеля гэтага павінна быць пастанова ўсіх сяброў Рады Лігі Народаў і павінен быць устаноўлены факт нападу з боку Нямеччыны. А разуменьне слова «напаўшага» ня так простае, як на першы пагляд здаецца. Згодна з выясьненьнем жэнэўскага пратаколу, нападаючым завецца той, хто не спаўніе пастановы Лігі Народаў. Але гэта разуменьне ня прынята дагаворам аб бясьпецы і гэта пытаньне будзе разьбірацца на будучай сэсіі Лігі Народаў.

У чым-жа зьмест гэтага ангельска-францускага паразуменьня, якое зьяўляецца адказам на нямецкую прапазыцыю, якая будзе разьбірацца пры перагаворах між Лёнданам, Парыжам і Бэрлінам? Адсюль ясна, што Англія зацікаўлена толькі ў абароне граніцаў па р. Рэйну, як асланяючай ня толькі Францыю і Бэльгію, але й Англію, г. зн. як беспасрэдна яе датычную, а што датычыць абароны граніцаў усіх іншых дзяржаваў усходняй і сярэдняй Эўропы, заснаваўшыхся пасьля вайны, дык Англія абвяшчае сваю поўную незацікаўленасьць. Тое, што для пераходу Францыяй дэмілітарызованай прырэйнскай паласы для падмогі Польшчы неабходна згода ўсіх сяброў Лігі Народаў, робіць аказаньне падмогі Францыі сваім саюзьнікам на ўсходзе амаль што немагчымым, дзеля таго, што вельмі трудна дабіцца, каб усе дзяржавы ў Радзе Лігі Народаў выказаліся проці Нямеччыны, ня кажучы ўжо аб тым, што ўся гэта процэдура вымагае шмат часу, а ваенныя падзеі тымчасам могуць разьвівацца. У гэткім здарэньні Польшча можа быць пакінута свайму ўласнаму лёсу.

Нямецкая і ангельская прэса гэты дагавор аб'ясьняе гэтак, што калі-б Францыя выступіла проці Нямеччыны, не адтрымаўшы дазволу Лігі Народаў, дык Англія павінна выкарыстаць свае ваенныя сілы проці Францыі, дзеля таго, што гэты дагавор павінен даваць гарантыю прырэйнскай граніцы як з боку Нямеччыны, так і з боку Францыі. Нямецкая прэса даказвае, што Нямеччына згодзіцца падпісаць гэты дагавор толькі пад гэткім варункам.

Чым-жа тлумачыцца гэткая ўступчывасьць з боку Англіі на карысьць Нямеччыны і яе поўная незацікаўленасьць лёсам усходніх суседзяў Нямеччыны?

Разгадка ўсяго гэтага бязумоўна крыецца ў дасьпяваемых падзеях на Усходзе. Ува ўсей Англіі, на ўсеньнім фронце ад Ціхага акеану да Сярод'земнага мора ідзе скрытае, пакуль што, змаганьне ўплыву С. С. Р. Р. і Англіі, і першы мае перавагу. Дзеля гэтага Англія з аднаго боку хоча разьвязаць сабе рукі ў Эўропе і ня хоча ўмешвацца ў розныя ваенныя пытаньні, недатычныя беспасрэдна яе інтарэсаў, а па другое, хоча на свой бок перацягнуць Нямеччыну, вырваўшы яе з абоймаў С. С. Р. Р., з якім хутка быць можа дайдзе да адкрытага аружнага спатканьня у Азіі. Гэткі вось конфлікт насьпявае цяпер у Кітаі.

У Кітаі цяпер якраз пад уплывам бальшавікоў разыгравающа здарэньні, якія могуць давясьці да аружнага спатканьня ня толькі з Кітаем, але й з С. С. Р. Р. Ранейшая хатняя вайна між староньні-

камі і праціўнікамі згоднага жыцьця з вялікімі дзяржавамі-протэкторамі перайшла ў вайну кітайцаў проці чужаземцаў кшталтам г. наз. боксэрскага паўстаньня ў 1900 г., давёўшага да ваеннага выступленьня ўсіх вялікіх дзяржаваў, а галоўным чынам Нямеччыны і Расеі. Першае выступленьне пачалося ў Шанхаі — вялікім прыморскім горадзе, які мае 5 мільёнаў насяленьня і разьдзяляецца на 2 часьці: кітайскую і чужаземную, якая мае француcкі, японскі, ангельскі і амэрыканскі кварталы. У чужаземнай часьці гораду навет паліцыя ёсьць пад уладай чужаземцаў. Разруха ў Шанхаі пачалася забастоўкай рабочых на японскіх фабрыках, быццам на эканамічным грунце, а пасьля прыняла адкрыты характар нацыянальна-палітычнага выступленьня проці чужаземцаў. Да рабочых далучыліся студэнты. На вуліцах Шанхаю дайшло да аружнага спатканьня між кітайскімі рабочымі і студэнтамі з аднаго боку і кітайскай паліцыяй чужаземных кварталаў пад камандай чужаземцаў з другога, рэзультатам якога было шмат чалавечых ахвяраў. Разруха ў Шанхаі, пакуль што, заціхла. У Шанхай прыехала значная падмога чужаземцаў. Але ў той-жа час пачынаецца разруха ў іншых гарадох Кітая. Ува ўсім гэтым ня тояць свайго маральнага і матар'яльнага падтрыманьня бальшавікі. Савецкі пасол у Кітаі, Карахан, адкрыта вядзе агітацыю, падбураючы кітайцаў, асабліва студэнтаў, проці чужаземцаў. Які абарот возьмуць гэтыя здарэньні, пакуль што, сказаць трудна. Усё-такі тое, што робіцца на Далёкім Усходзе, сільна беспакоіць дзяржавы, якія зьвязаны інтарэсамі з Кітаем, асабліва Англію і Францыю, а асабліва апошнюю, якая мае новыя беспакойствы недалёка ад сябе.

Францыя разьбіта ў Мароко. Аб разьмерах гэтага разгрому нічога ня ведама, дзеля таго, што з фронту прыбываюць толькі француcкія весткі. Але палажэньне там мабыць паважнае, калі туды паляцеў на аэропляне францускі прэм'ер Пэнлевэ з начальнікам гэнэральнага штабу, які перад ад'ездам заявіў, што хутка можна спадзявацца поўнай ліквідацыі паўстаньня. З гэтай мэтай францускі міністар Мальві езьдзіў спэцыяльна ў Мадрыд і зрабіў дагавор з гішпанскім урадам, на падставе якога Францыя адтрымала дазвол на пераход гішпанскай граніцы, каб паціснуць Рыфаў у гішпанскай паласе Мароко. Горш за ўсё тое, што гэтая ўдача мароканцаў, здарыўшаяся якраз тады, як паціснулі эўропэйцаў у розных пунктах Азіі, можа толькі заблутаць палажэньне эўропэйскіх дзяржаваў, меўшых калёніі.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

13 гэтага чэрвеня ўночы абвінавачаныя ў шпіёнстве двое супрацоўнікаў савецкага пасольства ў Варшаве Зубов і Балашева, на моцы пастановы Польскага Ураду, выдалены за граніцу.

П. Прэзыдэнт Рэспублікі назначыў Дэлегата Ураду на Віленшчыну п. Ул. Рачкевіча міністрам унутраных справаў, прыняўшы адначасна адстаўку дасюлешняга міністра п. Ратайскага і віцэ-міністра С. Смольскага.

Прэм'ер-міністар п. Ул. Грабскі тэлеграфам выклікаў у Варшаву п. Леона Васілеўскага першага міністра заграінчных справаў у кабінэце Марачэўскага. П. Васілеўскаму будзе запрапанована супрацоўніцтва ў крэсовай сэкцыі палітычнага камітэту рады міністраў. Функцыі яго дасюль не устаноўлены. У блізкіх да ўраду сфэрах запэўняюць, што ў кожным выпадку компэтэнцыя п. Васілеўскага ня будзе сходнаю з палажэньнем, якое займаў у крэсовай сэкцыі п. Тугут.

## За граніцай.

Як паведамляюць нямецкія газэты, павадыр паўстанцаў у **Мароко** Абдуль-Кэрым рыхтуе гэнэральны наступ на Фэц. Ен выслаў „верным султану" плямёнам маніфэст, у якім дакляруе хутка заняць Фэц.

У **Рэвалі (Эстонія)** адтрымана вестка, што ў эстонскія і фінскія воды, апрача ангельскае і амэрыканскае эскадраў, а таксама польскіх, дацкіх, латвійскіх і нарвэскіх ваенных караблёў, прыбудзе француcкая і італьянская эскадра. У зьвязку з візытам гэтых флётаў бальшавіцкая прэса выказвае вялікую нэрвовасьць і трэбуе закрыць доступы ў Кронштадт і Пецербург.

З **Кітаю** адтрымоўваюцца усё болей трывожныя весткі. Гэнэральны штаб японскага флёту паслаў ў Шанхай трэцюю эскадру контр-мінаносцаў з аддзеламі пяхоты. Японскае пасольства ў Пэкіне даручыла кітайскаму ўраду ноту аб здарэньнях у Ханькоу, катэгорычна трэбуючы самых энэргічных мераў дзеля спыненьня падобных выпадкаў і захоўваючы за сабою права на сатысфакцыю і адтрыманьне адшкадаваньня за матар'яльную шкоду.

15. VI натаўп студэнтаў у 40 тысяч чалавек, гандляроў і работнікаў дэмонстраваў перад будынкам міністэрства заграінчных справаў, трэбуючы неадкладна перарыву зносін з Англіяй і Японіяй ды пазбаўленьня гэтых дзяржаваў концэсіяў у Шанхаі і іншых месцах Кітаю.

З паясьненьняў ангельскага прэм'ера Бальдвіна у ніжняй палаце відаць, што і Англія і ўсе іншыя дзяржавы робяць усё магчымае, каб зьліквідаваць кітайскія непарадкі. Паміж іншым, у Шанхай паехала міжнародная камісія, якая на месцы павінна выясьніць прычыны неспакою.

14. VI — ў Цянь-Дзіне 2.500 кітайскіх студэнтаў арганізавалі дэмонстрацыю ў доказ солідарнасьці з забастоўшчыкамі ў Шанхаі.

РАТ перадае з Жэнэвы, што на пленуме конфэрэнцыі аб раззбраеньні прэзэс Катон-дэ-Віар, зазначыўшы, што конфэрэнцыя мела 31 паседжаньне, а камісія 73, — заявіў, што конфэрэнцыя зьяўляецца відным этапам у справе абмежаваньня азбройваньняў. Няма няпэўнасьці, што выпрацаваная конвэнцыя будзе прынята ўсімі парламэнтамі.

З **гішпанскае** сталіцы **Мадрыду** паведамляюць, што 18-VI там пачалася француска-гішпанская конфэрэнцыя па справох **Мароко**.

У **Бэльгіі** сфармаваўся кабінэт на чале з прэм'ерам Пульле.

У **Нямеччыне** парлямэнт адкінуў прапазыцыю нацыяналістых лічыць дзень каранацыі імпэратара Вільгэльма I ў Вэрсэлі ў 1871 г. нацыянальным сьвятам. Проці прапазыцыі галасаваў навет цэнтр і баварская народная партыя.

У **Палестыне** забіты губернатар Эрбэймсон. Урад склікаў арабскіх нотабляў і патрэбаваў выдачы забойцаў, абвясьціўшы, што калі ў працягу месяца забойцы ня будуць выданы ўладам, дык на места будзе накладзена контрыбуцыя ў 5.000 фунтаў.

„Daily Expr." паведамляе з Ерусаліму, што Англія анэктавала ў Транс'іорданіі месты Акабу і Маон.

З **Парыжу** тэлеграфуюць, што ў палаце разглядаецца проект рэформы выбараў.

# Жыцьцё провінцыі.

## В. Дунайчыцы, Нясьвіскага пав.

Па ініцыятыве сябра Сэкрэтарыяту Час. Б. Рады у Сіняўцы Х. Шыбута і сябра гуртка „Прасьветы" Я. Корбута 7 г. чэрвеня ў нашай вёсцы адбыўся беларускі спэктакль. Вясковымі аматарамі былі пастаўлены п'есы: 1) „На вёсцы" — камэдія ў 2 актах, 2) „Карчма"—трагэдія ў 3 актах і 3) польская камэдыя „Страхі". Пасьля спэктаклю былі скокі. Вечар прайшоў вельмі ўдачна; публіка была надта задаволена. Прысутных налічвалася каля 130 асоб. Увесь даход з гэтага спэктаклю адданы на карысьць мясцовай пажарнай каманды.

У гэтым годзе ў нашай вёсцы было ўжо 4 спэктаклі, на якіх, па між іншым, былі пастаўлены п'есы Аляхновіча: „Птушка счасьця", „Чорт і баба" і іншыя. Сцэну і адпаведнае памешканьне мы маем.

Да гэтага часу мы самі працавалі, як маглі, але добра ведаем, што не маглі ўсё як сьлед выканаць і нам вельмі хацелась-б у гэтай справе павучыцца.

Вось даведаўшыся аб тым, што Ч. Б. Рада ў хуткім часе пасылае на крэсы з'арганізованы ею тэатр пад кіраўніцтвам вядомага нашага пісьменніка і драматурга Фр. Аляхновіча, мы просім гэты тэатр заглянуць і ў нашую вёску. Вельмі пажаданым быў-бы прыезд на сьвята Пётры і Паўла г. е. 29 чэрвеня старога стылю.

Мы з свайго боку паможам тэатру ўсім, што будзе ад нас залежаць, навет маглі-б даць сваіх аматараў.

*N.*

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# ДРЫГВА

драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.

(*Глядзі „Грам. Гол." № 77*).

**Юлька.** Чым ён займаецца? я й сама ня ведаю. Кажуць, у карты грае, шулер ці што... Ведаю толькі, што мае шмат грошай, а гэта — самае важнае... А ты яму надта спадабалася, ён мне казаў...

**Манька.** Я ведаю...

**Юлька.** Ну вось... А што-ж ты на гэта?

**Манька.** Калі ён мне не падабаецца, нейкі страшны...

**Юлька.** Дурная ты! Чаго табе?... Як ён закахаўшыся ў табе, дык ты можаш за нос яго вадзіць, трэба толькі ўмець... Вось я скажу цяпер табе праўду: ён прыслаў мяне сюды, каб я пагутарыла з табой і даведалася, ці ты вельмі злая на яго за ўчарашняе, (*дастае грошы з торбачкі*) і вось прысылае табе дзесяць рублёў на блюзку...

**Манька.** Не хачу я ягоных грошай, ня трэба!

**Юлька.** Дурная! Чаму?

**Манька.** Бо ён мне не падабаецца... Жулік!

**Юлька.** А каб цябе... Эх, ты дурная, Манька! Што-ж ты думаеш, што лепшага знойдзеш? Ня кожная гэткае мае шчасьце, як Стэпка або Юзя... (*ізноў дае Маньцы грошы*). Ну, на! бяры!... (*Манька не бярэ грошай*). Ну, як хочаш!... Глядзі, каб пасьля не шкадавала. Ну, і думаеш далей задавацца са сваімі студэнтамі?

**Манька.** Я ня ведаю... (*Паўза*). Пан Міхал мне надта спадабаўся...

**Юлька.** Які пан Міхал?

**Манька.** А вось гэты, што ўчора... Ен такі... да іншых не падобны, далікатны такі...

**Юлька.** Эх, з гэтых знаёмстваў нічога ня будзе!

**Манька.** Мне нічога ня трэба... (*Ідзе да вакна*).

**Юлька.** Як ня трэба!? А блюзачку купіць трэба? а боцікі купіць трэба? а капялюш купіць трэба? Хіба-ж не заўсёды будзеш хадзіць, як цяпер, абадраная, ў хустачцы? А з пяцёх рублёў, якія табе дае гаспадыня ў месяц, усяго гэтага ня купіш.

**Манька** (*нічога не адказвае і глядзіць у вакно*).

**Юлька** (*ізноў суне ёй грошы*). На! маеш! бяры! а то пасьля пашкадуеш!

**Манька** (*гледзячы ў вакно*). О! ён ідзе! Глянь — гэта ён!

**Юлька.** Хто такі?

**Манька.** Міхась... Вось сюды... Здаецца, сюды ідзе!...

**Юлька.** Здурэла!... Эх, дурная, дурная! Калі ты набярэш розуму? (*устае*). Ну, я іду ўжо, а ты добра падумай аб тым, што я казала... Бывай!... (*выходзіць*).

**Манька** (*астаўшыся адна, сядае на стале, адчыняе вакно і гавора за сцэну*). Добры дзень!... Што?... Не, нікагусенькі!... Чаму-ж не, але ў нас яшчэ ўсё зачынена, бо гаспадыня яшчэ сьпіць... Што?... Добра!... (*саскоквае са стала і бяжыць да ўходных дзьвярэй*).

**Міхалка** (*ўваходзіць з нейкімі пачкамі*). Добры дзень, Маня!

**Манька.** Добры дзень, пан Міхал!

**Міхалка.** Га? ізноў «пан Міхал!»... Забылася?

# Пастановы Крэсовай сэкцыі, зацьверджаныя Радаю Міністраў.

Рада Міністраў зацьвярдзіла гэткія пастановы Крэсовай сэкцыі, даручаючы выканапьне іх адносным міністрам:

*I. У галіне міністэрства зямельных рэформаў:*

1) прысьпяшыць перадачу асаднікам права ўласнасьці на даныя ці праданыя ім участкі зямлі;

2) прыняць меры, каб зямельныя ўрады, а таксама парцэляцыйныя установы шырока і рупліва трактавалі патрэбы мясцовага насяленьня;

3) разьвіць чым шырэй на абшары ўсходніх ваяводзтваў акцыю па камасацыі, побач з прырэзкай зямлі да карлаватых гаспадарак (карлаватымі польская літэратура лічыць гаспадаркі, маючыя **да паловы гэктара**, троха менш ½ дзесяціны *Рэд.*), — з шырокім звальненьнем насяленьня ад аплаты гэтай камасацыйнай працы;

4. прыняць меры, каб у пляне працаў міністэрства на гэты год было выкнаньне ўрадовай камасацыі ня менш, як па 20.000 гэктараў (21.800 дзесяцін) на абшары кожнага з 4 усходніх акружных зямельных урадаў.

5) прысьпяшыць ліквідацыю сэрвітутаў — шляхам уясеньня новэлі да закону 10/I—1922 г., даючага ўплыў зямельным урадам на прысьпяшэньне працаў палюбоўных ацэначных камісіяў і паднімаючага норму адшкадаваньня за скасаваньне сэрвітутаў;

6) пачаць мэліорацыю (*палепшаньне для гаспадаркі*) няўжыткаў (*нягодных зямель*) на абшары ўсходніх ваяводзтваў наагул, а асушэньня Палесься ў асаблівасьці;

7) скіраваць на абшар усходніх ваяводзтваў парцэляцыйную дзейльнасьць Зямельнага Банку — шляхам адкрыцьця там аддзелу гэтага Банку і—купляньня ня толькі цэлых двароў, але і частак іх — на мэты навялічэньня карлавых гаспадарак і мясцовых паляпшэньняў грунтаў.

*II. У галіне міністэрства прасьветы і рэлігіяў:*

1) пачынаючы ад новага школьнага году, увясьці ў пачатковых школах — згодна з жаданьнямі бацькоў, выкладаньне навукі ў **дзьвёх мовах**;

2) увясьці — на абшарах, населеных ліцьвінамі, — дзяржаўныя пачатковыя школы — з літоўскаю выкладовою мовою;

3) стварыць у найбліжэйшым часе курсы: адны ў Вільні, другія ў Кракаве—для вучыцялёў беларускай і польскай нацыянальнасьці, для падгатоўкі іх для выкладаньня ў двумоўных школах — польска-беларускіх;

4) выдаць — коштам міністэрства — беларускі лементар і беларускую „чытанку" — перад пачаткам школьнага году;

5) выдаць коштам міністэрства—ў працягу 1925-1926 школьнага году далейшых беларускіх падручнікаў для пачатковых двумоўных школаў, а таксама для сярэдніх школаў беларускіх ці двумоўных;

6) выдаць коштам міністэрства — ў працягу 1925-6 школьнага году „рускія" (*украінскія?*) падручнікі для пачатковых школаў „рускіх" (украінскі!) і двумоўных;

**7) безадкладна ўтварыць матуральныя экзаменацыйныя камісіі: украінскія, беларускія, літоўскія і расейскія — для скончыўшых прыватныя гімназіі з адпаведнай выкладовай мовай;**

**8) увясьці з новага школьнага году абавязковае навучаньне беларускай мовы ў вучыцельскія сэмінарыі віленскага і навагрудзкага ваяводзтваў;**

9) устанавіць у працягу 1925-27 г. г. школьныя абводы і школьную сець—у ваяводзтвах віленскім, навагрудзкім, палескім і валынскім;

10) стварыць у працягу 1925-26 г. двумоўную вучыцельскую сэмінарыю на Валыні;

11) увясьці ў працягу месяца ў Раду Міністраў проект статуту праваслаўнай царквы ў Польшчы;

12) аднавіць кафэдру „рускай" (*украінскай?*) літэратуры ў Ягелёнскім Унівэрсытэце і

13) стварыць „studium Slavium" (*славянскі інстытут*) у Кракаве.

Іншыя і наступныя пастановы „сэкцыі" па меры іх зацьвярджэньня Радай Міністраў будуць паданы да агульнага ведама шляхам паведамленьняў.

# У С.С.Р.Р.

### Няпісьменны пракурор.

Праз Рыгу адтрымана вестка з Менску, быццам на пасаду бердычэўскага пракурора назначаны селянін „ад сахі" Яшчэнка, які ўмее чытаць сьлібізуючы, але ня можа пісаць.

### Законаў шмат—а толку мала.

Амаль ня кожная савецкая газэта дае абразкі таго, як гаспадаруюць бальшавікі-камуністыя. Узяткі, усялякія гвалты, звычайныя кражы казенных ці грамадзкіх грошаў і маемасьці і г. д. — характарызуе «работу» камісараў усіх рангаў і ступеняў. Асабліва дастаецца ад гэтае работы селянам. Праўда—і селяне ня надта любяць «свае» ўлады і часта-густа адпавядаюць на яе «айцоўскую» апеку над сабой—то забойствам нейкага «дзеяча», то проста — адкрытым паўстаньнем. Так, апошнія часы даволі значнае паўстаньне было на Беларусі. Ці і чым яно скончылася—добра яшчэ не вядома. Аднак самы факт гэтых сьведчыць, што «ў савецкім раі» ня так ужо добра жывецца, калі людзі хапаюцца за зброю. Наагул—сьцьвярдзіць можна, што селянства ня толькі ня лічыць сябе ашчасьліўленным гаспадаркай камуністых, але саўсім-такі варожа настроена да гэтае гаспадаркі. І вось апошнія часы, камуністычныя вярхі вельмі многа ўвагі ўдзяляюць пытаньню: як «здобыць» вёску, г. зн. як спыніць варожы да сябе настрой селян. Гэтая, «орыентацыя на вёску» камуністычнага рэжыму выклікала цэлую паводку ўсялякіх законаў і распараджэньняў, якія імкнуцца да палепшаньня агульных адносін сярод селянства і здобыцьця гэтым яго сымпатыяў.

Але як толькі да наго даткнуцца бальшавікі, дык добра гэта выглядае на паперы, а на дзеле... Вось што по гэтаму поваду піша бальшавіцкая «Беларуская вёска»: «Добрых законаў, якія абараняюць інтарэсы селянства, напісана ў нас вельмі шмат. *Аднак карысьць ад гэтага не заўсёды (?) бывае. Наша мясцовая улада* падчас (ці толькі падчас?—Рэд.) *гэтых законаў зусім ня чытае, а калі й чытае, дык мала разьбіраецца...* (*Курсыў наш*).

Каб гэтага ня было—утвораны асобныя «Камітэты узаемадапамогі», якія маюць на мэце «быць абаронцамі ільготаў і скідак», якія даюць селянам законы. Відавочна добра выпаўняюцца законы, калі для правядзеньня іх у жыцьцё патрэбны асобныя камітэты!...

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Ізноў землятрасеньне ў Японіі.

23 мінулага траўня адбылося ў Японіі моцнае землятрасеньне. Па вестках японскага пасольства ў Лёндане, ад землятрасеньня пацярпеў, галоўным чынам, раён паміж местамі Тойока і Гамазака, каля трыццацёх міль прапягам. У Тойока налічваецца каля 9.000 жыхароў, ранена й забіта каля 100 чалавек. Згарэла каля 2.000 дамоў. У Гамазака 3.600 жыхароў; згарэла тамака 700 дамоў. Яшчэ ў адным маленькім месьце згарэла 600 дамоў. Найбольшы японскі цэнтр Осака і найбольшы порт Косэ блізу што не пашкоджаны.

### Нязвычайны лёс француcкага жаўнера, перажыўшага сваю казьнь.

Ліга правоў чалавека ў Парыжы паставіла сабе задачаю ачышчэньне памяці нявінна засуджаных і расстрэляных ваеннымі судамі падчас вайны. У некалькіх выпадках Лізе сапраўды ўдалося зрабіць аднаўленьне працэсу.

Гісторыя аднаго француcкага жаўнера Францішка Ватэрлё вы-

---

**Манька.** Калі неяк так... сорамна казаць...

**Міхалка.** Ну, Маня, не саромся!... Кажы: Міхась, Міхалка — як хочаш, толькі ня: пан Міхал.

**Манька.** Міхась... калі, далібог, не магу...

**Міхалка.** Ну, вось сказала «Міхась»—і добра! А ўчора ты мне казала «Міхась» і не саромілася.

**Манька.** Во ўчора я зашмат выпіла... Фу!... (*паказваючы на пачачкі*). Што, гэта пан Міхал...

**Міхалка.** Што?!

**Манька** (*папраўіўшыся*). Што гэта Міхась прынёс?

**Міхалка.** А вось зараз пабачым... (*Разьвязвае торбачкі*). Вось гэта яблыкі, а тут вось пірожныя, а гэта цукеркі...

**Манька.** На што гэта?

**Міхалка.** Будзем есьці.

**Манька.** Ня трэба... Шкада грошай...

**Міхалка.** Глупства... Маеш, бяры, Манечка!

**Манька** (*пачынае есьці*). Гэта мусі шмат каштавала?

**Міхалка.** Глупства... Ведаеш што, Манечка: ці ня знойдзецца ў вас гарачай гарбаты?

**Манька.** Есьць. У гаспадыні ў пакоі кіпіць самавар.

**Міхалка** (*устрымоўвае яе*). Цс!... я не хачу, каб сюды прыйшла гаспадыня...

**Манька.** Нічога... Яна яшчэ сьпіць... (*выходзіць*).

**Міхалка** (*астаўшыся адзін, бярэ з буфэту пустыя талеркі, раскладвае на іх свой трактамэнт і ставіць на стале*).

**Манька** (*варочаецца з 2-ма шклянкамі гарбаты*). Як бачу, то пан Міхал ласун.

**Міхалка.** Ласун, але не «пан Міхал», а я—Міхаська.

**Манька.** Ну... Міхась... (*П'юць гарбату і закусваюць*).

**Міхалка.** Як гэта чалавек ніколі ня ведае, дзе яго шчасьце!... Калі ўчора цягнуў мяне сюды Сьцяпан, я не хацеў ісьці, думаў ужо варочацца дамоў... А вось што суджана, таго ня мінуць! Прыйшоў сюды, пабачыў цябе, закахаўся...

**Манька** (*недаверчыва*). Ну, так адразу і закахаўся!

**Міхалка.** Павер мне, Манечка, што кажу праўду! Я ад учора... але не! я ад сягоньняшняй ночы, як дурны. Я сягоньня яшчэ ня спаў. Я пайшоў за горад у лес. Я хадзіў і думаў, што гэта са мной робіцца?... Я ўсё думаў аб табе... Я ня мог дачакацца тае часіны, калі ізноў цябе пабачу. Нарэшце, я прыйшоў сюды, пад гэтыя вокны... Гляджу, рэстаран адчынены... Вось, думаю, добра!... Маня! а ты ці думала аба мне хоць крышачку? (*Абыймае яе*).

**Манька.** Думала. Я цябе сьніла.

**Міхалка.** Ах, ты мая залаценькая!... Але чаму-ж ты нічога не ясі?

**Манька.** А ты? Вось маеш гэты кусочак... смачны... (*дае яму кусок піроженага*).

**Міхалка.** Не, ня гэтак!... Калі смачны, дык хай будзе яшчэ смачнейшы. (*Дае ёй піроженае у губы*). Вось так, бяры ў зубкі, трымай! (*Нахіляецца над ёй і адгрызае з яе вуснаў кусок піроженага*). Вось так... (*ядуць, сьмяюцца, цалуюцца*).

**Манька.** Я цябе буду карміць, бо бачу, што ты ня хочаш нічога есьці.

**Міхалка.** Добра, але так як раней... Хадзі, сядай, птушачка, на мае калены!... (*Саджае яе сабе на калены*).

(*Працяг будзе*).

